Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 3(39) 19 — 25 студзеня 1996 года ЦАНА 1000 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

Навіны, скандалы

## З'явяцца Валожынскі, Астравецкі, Ашмянскі рэгіёны?

*МІНСК. Кабінет Міністраў разглядае праект закона РБ "Аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленні"...*

Праект закона не прадугледжвае карэннай ломкі ў адміністрацыйна- тэрытарыяльнай сістэме. Але прадугледжваецца ўтварэнне такіх адзінак, як рэгіён. У тым выпадку, калі горад і раён маюць адзін адміністрацыйны цэнтр і складаюць тэрытарыяльнае цэлае.

*По матэрыялах друку.*

## Сіфіліс не спіць

*АСТРАВЕЦ. Як у Астраўцы, так і ў раёне ў цэлым даволі трывожная сітуацыя з венерычнымі захворваннямі.*

Лічыце самі: толькі ў 1995 годзе афіцыйна зарэгістравана 12 выпадкаў захворванняў ганарэяй і 20 – сіфілісам. На першы погляд, гэтыя сухія лічбы нічога асаблівага не гавораць. Але вельмі трывожна яны выглядаюць у параўнанні з пазалеташнімі, бо выпадкаў з сіфілісам тады зарэгістравана не было наогул, а сітуацыя з ганарэяй засталася на ранейшым узроўні.

Сярод мноства прычын гэтай заганы часцей за ўсё сустракаюцца такія, як выпадковыя сувязі, пошукі прыгод "на баку" мужа ці жонкі і некаторыя іншыя.

Адным словам, праблема даволі сур'ёзная і патрабуе вырашэння. На жаль, не заўсёды медыкі знаходзяць паразуменне з міліцыяй. Як зазначыла ўрач-дэрматолаг раённай бальніцы Вольга Міхайлаўна Крук, супрацоўнікі Астравецкага РАУС даволі фармальна ставяцца да сваіх абавязкаў. Такіх фактаў, каб былі адмовы ў затрыманні і дастаўцы хворых, зразумела, не было, але і актыўнасці ў справе не назіраецца. Напэўна, ёсць справы ў міліцыі і больш важныя.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Візіцёры ад Мінатаўра

*Напэўна, толькі Мінатаўр, які, згодна з міфам, штогод патрабаваў для задавальнення свайго надзвычайнага апетыту 7 дзяўчын і 7 хлопцаў, змог бы адразу з'есці 7 тон мясапрадуктаў. Менавіта столькі свініны, каўбасы, грудзінкі і іншай далікатэснай вэнджаніны (агульным коштам 237 мільёнаў рублёў) у Маладзечне пагрузілі на МАЗ візіцёркі з Магілёўскай вобласці.*

Дваццацігадовая Алена Лапо і семнаццацігадовая Наталля Пруднікава дзейнічалі як прадстаўнікі адной з камерцыйных фірмаў горада Горкі. Прыехалі па папярэдняй дамове. Прад'явілі пастаўшчыку, Маладзечанскаму ТАА "Славянскі дом", аплачанае– праведзенае банкам– плацёжнае даручэнне. Маўляў, грошы спазняюцца.

Кіраўніцтва "Славянскага дома" своечасова западозрыла падробку. І, трэба дадаць, па-майстэрску, прафесійна зробленую. Упэўніліся па тэлефоне, што плацёжка па банку заказчыка ў г. Горкі не праходзіла, грошы не былі пераведзены. Таму прынялі адпаведныя меры для затрымання злачынцаў па гарачых слядах.

Візіцёркі арыштаваны. Вядзецца следства. Мінатаўр з Горак застаўся без прысмакаў.

*Святлана САРОКА.*

## Самае распаўсюджанае імя — Дзмітрый

*ВАЛОЖЫН. Імя дзіцяці бацькі выбіраюць па-рознаму. Цяпер– усё часцей па царкоўных календарах, іншы раз– дастаецца ў спадчыну ад дзядоў і прадзедаў. Заўважана, што ўсё менш становіцца колішніх Анжалік і Марыян.*

За 1995 год у Валожыне зарэгістраваны 56 хлопчыкаў і 61 дзяўчынка. Першых больш за ўсё нарадзілася ў жніўні– 10, а на дзяўчынак самым "ураджайным" быў май– 11.

Самым распаўсюджаным мужчынскім імем летась стала Дзмітрый, так бацькі назвалі 6 сыноў. 5 атрымалі імя Аляксандр. Як ні дзіўна, але не было летась ніводнага Івана. Затое даваліся хлопчыкам даволі рэдкія імёны. Да іх можна аднесці, напрыклад, такія: Барыс, Ягор, Ілля, Усевалад, Глеб.

Сярод жаночых імён лідэрства ўпэўнена ўтрымлівалі Настасся і Дар'я– па 6 дзяўчынак. Ёсць 4 Веранікі і Алены. Хапае і рэдкіх: Урсула, Лана, Альбіна, Нэлі, Валерыя, Ілона.

Летась у маладых сем'ях Валожына нарадзілася ажно 3 двойні.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Крупяны цэх дзейнічае

*СМАРГОНЬ. На камбікормавым заводзе запушчаны крупяны цэх па выпуску аўсяных круп магутнасцю 108 тон у суткі. У свой час разлічваўся ён на задавальненне патрэб не толькі беларусаў, а ўсіх сацыялістычных краін Еўропы.*

Таму пакуль што аб'ёмы новай вытворчасці спадзяюцца задзейнічаць не больш чым на 25 працэнтаў. Для Беларусі гэта будзе дастатковым. Магчыма, у перспектыве пачнецца выпуск ячменных круп ці аўсянай мукі з мэтай выпечкі пячэння.

*Павел МАКЛЮК.*

# Жыццё таннее

## Яно ўяўляецца чалавеку нікчэмным. І ўсё часцей мы чуем пра самагубствы.

*...Павесіўся школьнік. Нешта рабілася з ім апошнія дні. Хадзіў сумны. А чаму? Бацькі, настаўнікі, сябры не ведаюць.*

*...Звычайныя сямейныя сваркі знясілілі маладую жанчыну да таго, што яна згубіла жыццё. Без маці засталіся дзеткі. Адзін– немаўлятка.*

*...Стары хворы чалавек задушыўся ад адзіноты.*

*... Трыццацігадовы хлапец запазычыў грошы, не ведаў, як іх вярнуць. У падпітку сказаў маці: "Мне застаецца толькі павесіцца." "Ідзі..."– абыякава сказала яна. Ён і павесіўся. Побач. У туалеце.*

*... Маладая дзяўчына зрабіла аборт. Дакоры маці давялі яе да спробы атруціцца. Ледзьве выратавалі...*

За мінулы год у Маладзечанскім раёне зарэгістравана каля 40 фактаў самагубстваў і шмат спроб папярэджана. Як сведчаць супрацоўнікі міжрайпракуратуры, сярод людзей, якія скончылі жыццё самагубствам, 91,7% мужчын, 8,3% жанчын; 12,5 %– людзі сталага ўзросту, адзінокія.

Па фактах самагубстваў крымінальныя справы не ўзбуджаюцца. Таму, што няма абвінавачваных...

Аднак павелічэнне колькасці такіх фактаў у апошні час– паказчык неўпарадкаванасці грамадства. Яго хваробы. І эканамічнай, і маральнай. Не толькі пражытачны мінімум, але і чалавечая асоба, яе патрэбнасць грамадству– мізэрныя.

Безумоўна, матэрыяльныя цяжкасці спрыяюць. Але не самагубству, а страце жыццёвых каштоўнасцяў. Сярод якіх асноўная– само Жыццё. Дзесяць пасля пачатай перабудовы гадоў людзі чуюць пра пераацэньванне жыццёвых каштоўнасцяў, а ў рэчаіснасці не пераканаліся, што кошт іх жыцця ацэньваецца не коштам прадуктаў харчавання.

Людзі стаміліся ад вырашэння сваіх асабістых матэрыяльных і бытавых праблем. Азлобіліся. Частка стала абыякавай да блізкіх, нават да самых родных, абдзеленых сардэчнай цеплынёй.

96-ы год прынёс новыя факты. Раніцай 4-га студзеня ля пуцеправода ў раёне станцыі Маладзечна кінулася пад электрычку, што ішла з Мінска, 23-х гадовая дзяўчына. Ганна Карэніна, як ведаем, з-за каханага. Гэта– з-за яго адсутнасці. Хварэла. Псіхічна неўраўнаважаная. Неаднойчы жалілася сваёй маці на дрэнны лёс. У гэты дзень сказала ёй: "Пайду шукаць сабе смерць..." І знайшла. Машыніст не паспеў затармазіць. Заставалася толькі 80 метраў....

Як паведамляюць супрацоўнікі лінейнай міліцыі, летась былі два факты падобных самагубстваў. Цудоўная інтэлігентная жанчына, начальнік аддзела аднаго з маладзечанскіх прадпрыемстваў, раніцай кінулася пад цягнік "Масква-Вільнюс". Не хворая. Не п'яная. Напэўна, праблема была бытавая.

Псіхолаг маладзечанскага цэнтра псіхалагічнай службы Таццяна Грышэль тлумачыць, што асноўнай прычынай узнікнення суіцыдальных тэндэнцый (самагубстваў) з'яўляецца страта эмацыянальнага кантакту з блізкімі і захапіўшае чалавека пачуццё безнадзейнасці. Думка пра самагубства прыходзіць, калі на яго (!) асабісты погляд праблемы ўжо невырашальныя. Чалавек робіцца бездапаможным. Ён ідзе з жыцця, каб не вырашаць цяжкасці. Спроба самагубства– гэта моцная эмацыянальная рэакцыя псіхікі, якая накіравана на разбурэнне самога чалавека. А самагубца пры гэтым– ахвяра ўласных памылковых думак.

Хто можа дапамагчы ў гэты момант? Толькі аўтарытэтная– менавіта для гэтага чалавека– асоба. Часцей– бацькі, сябры, каханая. Выніковай з'яўляецца і прафесійная дапамога псіхолага. Летась у маладзечанскі цэнтр сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі звярнулася 12 чалавек з суіцыднымі тэндэнцыямі. Псіхолагі дапамаглі ім выйсці з крызіснага стану, пазбавіцца ад думкі пра безвыходнасць. Гуманістычная псіхалогія прытрымліваецца погляду, што няма невырашальных праблем для чалавека, а Жыццё– вышэй за мараль. Тым, каму сёння вельмі цяжка, псіхолагі кажуць: "Памятайце, што напісана на пярсцёнку Саламона– "Усё праходзіць..." Пройдзе і гэта..."

*Святлана САРОКА.*

З міліцэйскіх крыніц

## Пад маркай канфіскацыі

*МАЛАДЗЕЧНА. У кватэру Яўгена Вязгіна 8 студзеня прыйшлі пяць маладых мужчын. Першапачатковае іх жаданне было набыць бутэльку гарэлкі. Гаспадар прапанаваў купіць. На кухні стаяла 80 бутэлек "Рускай". Як растлумачыў ён потым супрацоўнікам міліцыі– да жончынага юбілею.*

Убачыўшы гэткае мноства гарэлкі ў дзвюх кардонках з-пад бананаў, госці павялі сябе інакш...

–Мы супрацоўнікі міліцыі,– працягнулі гаспадару нейкую чырвоную вокладку.– Усю гарэлку канфіскуем.

Вязгін спрабаваў пярэчыць. Але прытворныя міліцыянеры, пагражаючы чымсьці, што гаспадар палічыў за пісталет, выцягнулі з кватэры абедзве кардонкі з бутэлькамі.

Два з пяці "міліцыянераў" арыштаваны. Асобы астатніх вызначаны.

Следству патрабуецца дапамога грамадзян, дадатковыя звесткі. Тых, хто ведае пра абставіны гэтага здарэння, просіць патэлефанаваць 7-38-45 следчы Маладзечанскага РАУС Сяргей Грынкевіч. Можна таксама паведаміць па тэл. 02.

*Святлана САРОКА.*

Беспрацоўе

## Хоць у гэтым лідзіруе Вілейка

*За апошні год у Вілейскім, Маладзечанскім, Мядзельскім і Валожынскім раёнах тэмпы росту беспрацоўя нікольні не замарудзіліся, а наадварот, сталі больш імклівыя. Сярод сваіх суседзяў лідзіруе Вілейка.*

Тут рост беспрацоўя летась амаль у два разы перавысіў сярэднеабласны паказчык. У раёне ён ніжэй і складае адзін працэнт, а ў райцэнтры ж у сярэднім па году ўзляцеў аж да 4,3 працэнта. Былі летась месяцы, калі гэтая лічба складала аж 5,8 працэнта. Сацыяльная напружанасць склалася ў асноўным з-за становішча на буйнейшым прадпрыемстве горада,– заводзе "Зеніт", дзе аб'ёмы вытворчасці на працягу года не раслі і заводскай казне не пад сілу стала ўтрымліваць вялікую колькасць працуючых.

Цяжка ўладкавацца на работу выпускнікам школ, ПТВ, тэхнікумаў і ВНУ. Але, як ні дзіўна, больш за ўсё беспрацоўных самага працаздольнага ўзросту– ад 30 да 39 гадоў.

Як жа будзем жыць далей? На сумныя развагі штурхае прыведзеная вышэй статыстыка. Тым больш, што адлюстроўвае яна толькі надводную частку айсберга. Падводная куды страшней– скрытае беспрацоўе, вымушаныя адпускнікі і няпоўны рабочы тыдзень.

А тыя, хто працуюць, хіба лепей сябе адчуваюць, чым беспрацоўныя? Сярэдні памер дапамогі па беспрацоўю ў Вілейцы за мінулы год склаў 123 тысячы. Некаторыя калгасы, дрэваапрацоўчы камбінат, завод "Зеніт", ГВА ЖКГ выплачвалі зарплату сваім рабочым са спазненнем на два-тры месяцы, ды і выплаты тыя ў многіх былі невысокімі.

*Алесь ПЕТРУСЁЎ.*

## Гуляць дык гуляць

*МАЛАДЗЕЧНА. Арыгінальны "падарунак" на Новы год паднесла кіраўніцтва завода "Спадарожнік" сваім работнікам. Людзям далі магчымасць добра адпачыць на свята. Нават, каб не пакрыўдзіць вернікаў, "прыхапілі" каталіцкія і праваслаўныя каляды.*

Такім чынам, цэлы месяц рабочыя і служачыя прадпрыемства, за выключэннем асобных падраздзяленняў, вымушаны былі знаходзіцца дома. Праўда, частку ад заробку ім усё ж паабяцалі выплаціць (нядаўна на заводзе атрымалі зарплату за лістапад).

Не адчуваецца нармальнай загрузкі на ўчастках, у цэхах, аддзелах і цяпер. Большасць падраздзяленняў працуе толькі тры дні на тыдзень.

Ходзяць чуткі, што ў лютым зноў прыйдзецца "адпачываць". Але гэта яшчэ што! Адміністрацыя прадпрыемства плануе чарговае скарачэнне штатаў.

*Рыгор ШВЕЦ.*



### Даведнік для вілейчан

"РГ" пачала падрыхтоўку да друку даведніка для вілейчан. Дзе пашыць адзенне, заказаць фота, расчасаць воўну?.. На гэтыя і многія іншыя пытанні дасць адказ гэта брашура. Сярод гэтых звестак можа быць размешчана рэклама вашай фірмы. Не ўпусціце свой шанц.
Наш тэл. (01773) 53841.

Прадпрымальніцтва не мае межаў

# Са скаргамі ў смаргонскі "Камунальнік" прыходзяць адзінкі

***Кожны горад мае свае адметныя рысы. Калі Маладзечна цэнтральная прэса назвала "горадам сонца", то Смаргонь можна лічыць "горадам магазінаў". Ад чыгункі да цэнтра іх, быццам грыбоў пасля дажджу ў спрыяльнае надвор'е.***

Мясцовыя журналісты сустрэлі мяне як сябра і ў прыватнай размове на пытанне, чым смаргонцы могуць сёння ганарыцца, прагучаў і такі адказ: цяплом у кватэрах, добраўпарадкаванымі вуліцамі. Можа Браніслава Стурліса, дырэктара вытворчага аб'яднання "Камунальнік" і не называюць у Смаргоні чалавекам года, але, бясспрэчна, паважаюць, як добрага гаспадара, і ідуць да яго за парадай, дапамогай.

***— Браніслаў Францавіч, колькі ў вас за дзень наведвальнікаў і з якімі пытаннямі звяртаюцца гараджане?***

— Сёння, напрыклад, прыняў 20 чалавек. У асноўным просяцца на работу. Адзінкі прыходзяць са сваімі скаргамі, якія мы аператыўна разглядаем і вырашаем.

***— Няўжо ў горадзе так дрэнна з работай, што людзі згодны ісці на вуліцы махаць мятлой?***

Б. Ф. смяецца:

— У 1993 годзе мы ўзялі на баланс кацельню, перавялі яе на газ. І яна ацяплляе амаль увесь горад. Акрамя традыцыйнага аб'ёму работ мы яшчэ гандлюем. Маем тры свае прадуктовыя магазіны, пры гасцініцы— кафэ з барам, летняе кафэ. Гэта адзіны комплекс.

Паставілі таксама тры кіёскі. Спаборнічаем з маладзечанскімі прадпрымальнікамі. Яны прывазное марожанае прадаюць па 3-5 тысяч, а мы сваё па паўтары тысячы. Вось-вось павінны побач з лазняй адкрыць чарачную.

***— Такое ўражанне, што толькі свайго банка вам не хапае.***

— Банк, можа, і не будзем ствараць, але свой асабісты пункт абмену валюты дзейнічае. Атрымалі дазвол, вось і прадаём "джорджыка".

юць, як добрага гаспадара, і ідуць

***— І колькі каштуе ў вас "джорджык"?***

— У горадзе 5 банкаў, пры ўстаноўцы курсу арыентуемся на іх.

***— Дык колькі чалавек у структуры аб'яднання?***

— Усяго 700. 85 з іх— ітэзраўцы. Можаце быць упэўнены — выпадковых людзей у нас няма. Я дзевяты год працую ў Смаргоні на пасадзе дырэктара "Камунальніка". Сам адбіраў і адбіраю кадры. Уся наша работа падпарадкавана адной мэце— высокай культуры вытворчасці. Таму і нямнога ў нас скаргаў ад гараджан.

***— Што ўяўляе сабою сённяшні кватэранаймальнік?***

— Усім нам не хапае культуры, мы не можам зберагчы тое, што ёсць. Адзін прыклад. Летась напярэдадні Новага года мы паставілі 6 ёлак па гораду. Сёлета толькі адну на цэнтральнай плошчы. Няма сэнсу ўпрыгожваць горад. Усё зламаюць яшчэ да свята.

***— А як наогул вашы работнікі сустрэлі Новы год?***

— Хто як. Хто дома ў сям'і за святочным сталом. А хто і на рабоце. Бо мы ноччу з 31 на 1 у цэнтры горада разварнулі гандаль рознымі прысмакамі, мучнымі вырабамі.

Адна справа паслухаць, іншая— ўбачыць на свае вочы. Таму з Браніславам Францавічам мы і аб'ехалі ўсю ягоную гаспадарку. За восем апошніх гадоў у горадзе пашырыліся дарогі (адзін участак з 7 да 16 метраў), вырашыліся розныя вытворчыя пытанні.

Але больш за ўсё мяне ўразіў офіс вытворчага аб'яднання: з густам абсталяваныя кабінеты з камп'ютэрамі і тэлевізарамі, зал пасяджэнняў, саўна, шыкоўная зала для правядзення "пяцімінутак". Ля офіса, двухпавярховага будынка,— гаражы, гаспадарчыя прыбудовы. І ўсё даведзена да розуму.

— А чаго здзіўляцца,— на развітанне сказаў Браніслаў Францавіч Стурліс,— умовы, у якіх чалавек працуе, непасрэдна ўплываюць на настрой, а гэта значыць,— на якасць работы.

Калі ішоў увечары на чыгунку, сустрэў машыну, якая везла за горад снег...

***Васіль САВІЦКІ.***

# Атэставалі беларускую гімназію

***Два тыдні ў сярэдзіне снежня працавала ў Маладзечанскай беларускай гімназіі камісія Дзяржінспекцыі навучальных установаў Міністэрства адукацыі і навукі. Вынікам стала пасведчанне аб дзяржаўнай атэстацыі навучальнай установы тэрмінам на пяць гадоў.***

Камісія зрабіла выснову, што дзейнасць беларускай гімназіі адпавядае мэтам, задачам адукацыі і выхавання, узровень падрыхтоўкі як вучняў, так і іх настаўнікаў прызнаны добрым. Па выніках праверкі шэраг настаўнікаў рэкамендаваны да маральнага і матэр'яльнага заахвочвання.

Усе гады існавання (афіцыйна гімназія адчыніла дзверы з 1 верасня 1991 года) у яе спадарожніках поспех. За гэты параўнальна невялікі час ацанілі перавагі навучання дзяцей у ёй і бацькі. Практычна ўсе прадметы ў гімназіі выкладаюцца на беларускай мове. Але нават пасля мінулагодняга рэферэндуму ніводны бацька не падаў заяву аб пераводзе ў іншую школу з гэтай прычыны.

Яно і зразумела: навошта пераводзіць вучня з установы, выхаванцы якой толькі ў гэтым навучальным годзе занялі першае месца ў горадзе па колькасці прызавых месцаў на школьных алімпіядах (11 прадметаў), а пяць чалавек сталі прызёрамі (1 першае і 4 другія месцы) абласных алімпіяд. Да 70 працэнтаў выпускнікоў паступае ў ВНУ. Пятая частка выкладчыкаў гімназіі мае вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю, амаль палова – першую.

У складзе камісіі былі людзі сур'ёзныя і кваліфікаваныя – кандыдаты навук, дацэнты мінскіх ВНУ, прарэктар па вучэбнай рабоце Беларускай акадэміі мастацтваў, намеснік дэкана ВНУ і дырэктар школы, дырэктар РЦ псіхалагічнага кансультавання, выкладчыкі мінскіх гімназій, вядучыя інспектары Міністэрства.

Цікавыя вынікі псіхалагічных даследаванняў, праведзеных (ананімна) падчас праверкі: самы высокі сацыяметрычны статус у вучэбнай дзейнасці мае дырэктар гімназіі Б. У. Вайцяхоўскі. Лідзіруючае становішча займаюць адміністрацыя і абодва школьныя псіхолагі.

Практычна па ўсіх прадметах адзначаны высокі ўзровень выкладання і навучання. Асабліва добра паказала сябе пачатковая школа – 1-4 класы (яны чыста гімназічныя), узровень выкладання ў іх прызнаны высокім.

Паспяхова працуюць выкладчыкі замежных моў, вопыт работы кафедры фізвыхавання маладзечанскай беларускай гімназіі рэкамедавана абагуліць на ўзроўні краіны.

Адзначаны ўзорны тэатр-студыя "Тэст", які гарадскім уладам і аддзелу адукацыі рэкамендавана ўсяляк падтрымліваць і, па-магчымасці, фінансаваць. Ён адзіны ў краіне ў сістэме адукацыі, назва адпавядае званню "народны".

У даведцы, напісанай па выніках праверкі, адзначаецца:

"...у гімназіі складваецца сістэма выхаваўчай работы, якая ажыццяўляецца з улікам інтарэсаў, схільнасцей і здольнасцей вучняў на прынцыпах узаемапавагі і супрацоўніцтва".

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

# Тры дні бясплатна

штотыдня харчуюцца дзеці гарадскіх школ у Вілейцы. Дапамаглі ў гэтым гарадскія ўлады, якія нават пры сённяшняй нішчымніцы знайшлі магчымасць выдзеліць па сем тысяч рублёў у тыдзень на кожнага школьніка ад першакласніка да выпускніка.

–Гэта– немалыя грошы,– кажа дырэктар СШ №3 Мікалай Гіро. За два месяцы збіраецца такая сума, што мы б змаглі, скажам, пакрыць дахам будынак школы.

***Аддзел інфармацыі.***

# Зразумейце мацярынскае гора

Мой сын Руслан нарадзіўся з цяжкім захворваннем– дзіцячым цэрабральным паралічом. Некалькі разоў мы з мужам спрабавалі лячыць сына. Упершыню з'явілася надзея: Цэнтр Усходняй медыцыны ў Маскве дапамагае такім дзецям, як наш. Грошы на лячэнне нам выдзелілі гарадскія ўлады. Пабывалі з Русланам у Маскве, прайшлі першы курс. За два тыдні сын значна акрыяў. Каштавала лячэнне 900 тысяч расійскіх рублёў, яшчэ 500 тысяч пайшлі на пражыванне ў Маскве.

Такіх курсаў Руслану патрэбна 5, з перапынкамі ў месяц-паўтара. Наступны павінен пачацца 29 студзеня. Сваіх сродкаў мы з мужам сабраць не змаглі, каб цалкам аплаціць лячэнне: працуем на "Зеніце", зарабляем няшмат, выхоўваем яшчэ і малодшага сына.

Засталася ў нас адна надзея–на вас, людзі добрыя. Дапамажыце, чым можаце, каб змаглі мы палячыць свайго Руслана. Грошы можна пералічыць на рахунак 3015202650015 у аддзяленні АКБ БелАПБ г. Вілейкі з паметкай "На лячэнне Руслана". Наш тэлефон у Вілейцы 57700.

***Людміла СВЯТОХА, вілейчанка.***

# Новае пакаленне выбірае

***— Знайдзіце работу сыну! Чым блукаць па дварах, хай лепш сабе на магнітафон заробіць.***

***— Працаўладкуйце хлопца! Ён лічыцца "цяжкім" падлеткам. Ведаеце, розныя кампаніі, у яго ўзрост такі, калі цягнешся да старэйшых у пошуках усёведаючага таварыша, так званага "ідэйнага бацькі".***

Не змаўкаў раней тэлефон у гаркоме камсамола напярэдадні летніх школьных канікулаў. І функцыянеры знаходзілі работу, працаўладкоўвалі. Усім была карысць: і прадпрыемству, і непаўналетнім рабацягам, і іх бацькам.

Сёння сітуацыя поўнасцю змянілася: простойвае вытворчасць, а па дварах блукаюць сапраўдныя спецыялісты далёка не школьнага ўзросту. Таму і прыходзіцца школьнікам у час свайго адпачынку знаёміцца з рыначнымі адносінамі.

–Ці маеце вы свае заробленыя грошы?– цікавіўся я ў вучняў Ашмянаў, Смаргоні, Маладзечна і часцяком атрымліваў станоўчы адказ. Хлопцы 6-8 класаў мыюць аўтамабілі, збіраюць бутэлькі, запраўляюць машыны на запраўках. А старшакласнікі робяць свой бізнес на перапродажы гарэлкі, цыгарэт, газет і часопісаў, марожанага. Як гэта атрымліваецца, распавядаюць мае героі.

**Сяргей Л., 10 клас.**

–Па ходу цягніка Маладзечна-Гудагай ёсць станцыя, дзе жыве бабуля. На гэтай станцыі я і прадаваў усё лета гарэлку. У шэсць еду на Маладзечна. Напярэдадні старэйшы брат купляе бутэлек дваццаць. У дзесяць гадзін я ўжо на станцыі, гандлюю. Калі ёсць патрэба, ў пятнаццаць гадзін зноў крутнуўся ў горад за таварам. Самы спрыяльны час– вечар. Днём маю дзве тысячы з бутэлькі, вечарам пяць. За дзень разыходзілася ў сярэднім бутэлек трыццаць. Пакупнікі ў асноўным– дачнікі. Я іх называю людзьмі з цягніка. Бацькі ведаюць аб маім "захапленні", бывае, пазычаюць у мяне грошы– інтэлігенты, зарабляюць няшмат.

**Ігар К., 10 клас.**

–Па знаёмству ўладкавалі ў будаўнічую арганізацыю на месяц учотчыкам у кар'ер. Прыходзіць пад пагрузку транспарт– запісваю нумар машыны, правяраю, каб былі выпісаны неабходныя дакументы. Экскаватаршчыку гадоў за 50. Яго дачка настаўніца, выкладае ў мяне алгебру. Неблагая. Аб гэтым я і сказаў, таму з экскаватаршчыкам знайшлі агульную мову. Кожны дзень у канцы работы Вацлаў Іосіфавіч (так яго завуць) даваў мне дзесяць тысяч на цукеркі. А што яму грошы, калі на працягу васьмі гадзін да дзесяці машын левых нагружалі.

**Аляксандр Я. 10 клас.**

–У кіёсках на чыгунцы купляў цыгарэты "Астра". Адразу браў сто пачак. Садзіўся на цягнік Маладзечна-Ліда і праз паўтары гадзіны– ужо ў сваёй вёсцы. У Валожынскім раёне мясцовае спажыўтаварыства пастаўляе ў магазін "Астру" па 2600 рублёў. Кіёск прадае па 1500. Накідваю тысячу і за тыдзень усё разыходзіцца. Нідзе з цыгарэтамі ў руках не стаю– вяскоўцы прыходзяць адразу да хаты. За два месяцы зарабіў 60 долараў.

**Сяргей Н., 10 клас.**

–Мы з бацькам "радыёаматары". Ён любіць скупляць радыёдэталі за паўцаны, а я люблю іх прадаваць на рынку. За тыдзень прыбытак можа скласці да 200 тысяч рублёў.

**Дзіма Д., 10 клас.**

–Летам за два месяцы зарабіў 70 долараў на продажы марожанага. У Мінску з электрычкі чалавек сорак спяшаюцца на Чэрвеньскі рынак, дзе па паўтары тысячы купляюць марожанае і сухі лёд. Купілі і адразу электрычкай у Маладзечна. Я заўсёды браў па тры скрынкі. Гэта 180 порцый. З электрычкі мяне сустракаў на машыне бацька. І пакуль мае "таварышы" дацягнуць на сабе тавар да рынку, у мяне ўжо і гандаль заканчваецца. Хочаш добра жыць– круціся.

***Пытанні працаўладкавання падлеткаў вывучаў Васіль САВІЦКІ.***

# Электрычкі на буксіры

***Пазаўчора рытм чыгункі на ўчастку Маладзечна-Мінск быў парушаны. На сумежных участках таксама.***

Прычына –- грузавы вагон, які, адчапіўшыся ад саставу, набраў хуткасць і не толькі стварыў надзвычай небяспечную сітуацыю –- парэзаўшы стрэлкі, выскачыў на сустрэчную каляю,-- але і пашкодзіў пуць. Праводзячы рамонт, чыгуначнікі адключылі сілкаванне электрычак. А самі электрапаязды паміж Маладзечнам і Мінскам цягалі "на буксіры" цеплавозы.

Толькі з-за гэтага апошнія прыгарадныя цягнікі з Маладзечна на Гудагай, Ліду, Крулеўшчыну стаялі на станцыі ў чаканні электрычкі з Мінска амаль дзве гадзіны. Пасажыры, як заўсёды, нічога не ведалі. Чыгуначнікі не палічылі неабходным паведаміць аб прычыне затрымкі. А аб прабачэннях і гаворкі быць не магло. Чалавек з яго асабістымі праблемамі, клопатамі і планамі нічога ніколі не быў варты.

***Мікола ГАЙДУК.***

Здраўніцы Нарачанскага краю

# Зіма – не лета. І ўсё ж адпачываць лепш цяпер

***У Нарачанскіх здраўніцах у гэтыя студзеньскія дні пануе непрывычнае зацішша. Колькасць адпачываючых у апошнія месяцы рэзка зменшылася. У прыватнасці, даволі папулярны ў краіне дом адпачынку "Нарач" запоўнены зараз толькі на дзесяць працэнтаў.***

І гэта нягледзячы на тое, што з пачатку новага года цэны на пуцёўкі знізіліся ў два разы. Калі сказаць канкрэтна, то яшчэ ў снежні адзін дзень знаходжання ў здраўніцы абыходзіўся больш як у сто тысяч рублёў, а цяпер– усяго пяцьдзесят тысяч рублёў. Чым жа растлумачваецца такая сітуацыя? Што, у рэспубліцы няма жадаючых паправіць сваё здароўе? Гэтыя пытанні я адрасаваў дырэктару дома адпачынку "Нарач" Уладзіміру Баравому.

– Справа ў тым,– пачуў у адказ,– што раней нашы пуцёўкі рэалізоўваў, згодна з заключаным дагаворам, рэспубліканскі фонд "Здароўе". Менавіта ён займаецца пытаннямі аздараўлення і лячэння як пацярпелых ад Чарнобыльскай трагедыі, так і ўсіх астатніх жыхароў краіны. Дык вось гэты дзяржаўны фонд завінаваціўся нам за пуцёўкі за трэці і чацвёрты кварталы ажно чатыры мільярды 600 мільёнаў рублёў. Чаму? Ды таму, што ўрад на гэтыя мэты выдзеліў недастаткова сродкаў. Адсюль і наша фінансавае становішча, мякка кажучы, не з лепшых. Зараз спрабуем рэалізоўваць пуцёўкі самі. Хаця вырашыць гэту праблему ў поўнай меры ўласнымі сіламі, канешне, не ўдасца.

І ўсё ж намаганні кіраўніцтва дома адпачынку не дарэмныя. Неўзабаве ў здраўніцу заязджаюць сто сорак чалавек, што амаль у тры разы больш, чым налічваецца адпачываючых на сённяшні дзень.

Па ўсім відаць, нестабільная работа курортных аздраравленчых устаноў працягнецца да лета, калі жадаючых трапіць на Нарач хаця б тыдні на два, хоць адбаўляй. У тым жа доме адпачынку набыць пуцёўку ў сезон было не так і проста, хаця за адзін дзень знаходжання ў здраўніцы і даводзілася плаціць звыш ста трыццаці тысяч рублёў. Так што адпачываць усё ж лепш цяпер: і пуцёўка танная, і рознага тлуму-гаму менш...

***Наш кар.***

